© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014


# Наша Свабода

№20(107) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

19 ЛЮТАГА 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


стар.7



Наркотыкі і бацькі

## Пад Касцюковічамі няма чым дыхаць

Канстанцін УВАРАЎ

У год на аднаго жыхара Касцюковіцкага раёна прыпадае каля 147 кг забруджваючых рэчываў, што ідуць ад стацыянарных крыніцаў. Гэта адзін з самых вялікіх паказчыкаў у Магілёўскай вобласці.

Увогуле ж, паводле звестак Магілёўскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, у год на аднаго жыхара Магілёўшчыны прыпадае да 37 кг забруджваючых рэчываў.

Паводле інфармацыі эколагаў, кожны пяты аўтамабіль вобласці перавышае нормы па дымнасці. Гарадскі грамадскі транспарт практычна ўвесь экалагічны небяспечны.

БелаПАН

## Беларусь паклала вока на польскія порты

Андрэй АСМАЛОЎСКІ

Пытанні палітычнага, эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва рэгіёнаў Беларусі і Паморскага ваяводства Польшчы абмяркоўвалі з прадстаўнікамі ваяводства пасол Беларусі ў Рэспубліцы Польшча Мікалай Крэчка.

Падчас сустрэчы Мікалая Крэчкі з маршалам Паморскага сейміка Янам Заромбскім абмяркоўваліся магчымасці выкарыстання эканамічных рэсурсаў польскага ўзбярэжжа, уключаючы порты Гданьска і Гдыні.

БелаПАН

## Казахстан не хоча інтэгравацца

Аляксей АРЭШКА

Ніякага жадання браць удзел у працэсе валютнай інтэграцыі Расіі і Беларусі ў Казахстана няма. Пра гэта 16 лютага ў інтэрв'ю «Известиям» заявіў старшыня Нацыянальнага банка Казахстана Рыгор Марчанка.

Ён лічыць, што тэмпы валютнай інтэграцыі Расіі і Беларусі «дастаткова марудныя», таму зараз рана вызначацца і прымаць нейкія рашэнні. Разам з тым Рыгор Марчанка не выключае з'яўлення адзінай валюты ў рамках СНД. На яго думку, гэта павінна быць наднацыянальная валюта, а рашэнне варта прымаць, як у Еўрапейскім Саюзе, — шляхам рэферэндумаў.

## У Англіі затрыманыя нелегалы з Беларусі

Алесь АБРАМОВІЧ

Трыццаць пяць нелегальных мігрантаў з краін Усходняй Еўропы, у тым ліку з Беларусі, былі затрыманыя 13 лютага брытанскай паліцыяй у горадзе Саўспарт, што на поўнач ад Ліверпуля, паведамляе лонданская газета «Таймс». Акрамя беларусаў, сярод затрыманых грамадзяне Латвіі, Літвы, Польшчы і Расіі.

Паліцыя сцвярджае, што гэтых людзей накіравала на работу і забяспечыла падробнымі дакументамі расійская крымінальная групоўка. Кожны з іх заплаціў злачынцам-пасярэднікам па 300 фунтаў, каб атрымаць работу. У асноўным яны працавалі на фермах ці заводах па ўпакоўцы мяса.



Дворец республики, в котором в мае по указу А.Лукашенко соберутся «избранные» депутаты Всебелорусского Схода

# Будут народные маевки

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

Многие помнят отличный фильм «Был месяц май». Гитлер повержен и солдаты-освободители наслаждаются тишиной красивых пейзажей Германии. Тяжелое время войны позади. Лиризм оптимистического будущего отражен в музыкальной теме, которая до сих пор популярна. Похоже, своя майская тема прозвучит в этом году в Беларуси. И под разную музыку.

На протяжении всех шести с половиной лет своего существания правящий режим в Беларуси освящал судьбоносные для себя мероприятия массовыми сходами. Этакое подобие народовластия, которое в Ливии называется Джамахирией. Но еще до личного знакомства с ливийским правителем Муамаром Каддафи руководитель Беларуси внедрил на белорусской почве свою джамахирию.

Памятному референдуму в ноябре 1996 года предшествовало так называемое первое Всебелорусское собрание. Собравшиеся присягали на верность своему хозяину. Проведение и манипуляции в процессе самого референдума были уже делом техники. Из перепуганной сотни депутатов Верховного Совета режим создал палату №1. Как известно, для руководства Республики Беларусь это стало началом продолжающейся до сих пор их внешнеполитической изоляции. Правда, правитель и его сподвижники это положение пытаются объяснять своим гражданам как отстаивание суверенитета страны.

Вторым по счету массовым мероприятием можно считать проведенный осенью прошлого века съезд народных депутатов, которые остались декорациями для всех уровней исполнительной власти. Собрались они уже не во Дворце спорта, а Дворце Республики. После этого схода были проведены парламентские выборы. Как и ноябрьский референдум 1996 года, выборы в палату №2 никто в мировом сообществе так и не признал. И вот уже в наступившем столетии, вновь в Минске стал раздаваться призывный барабанный бой. Вновь понадобилась массовка.

В соответствии со статьей 37, столь символичной цифрой для граждан бывшего Советского Союза, принятой все тем же референдумом-96 Конституцией Республики Беларусь, созывается 18 мая 2001 года второе Всебелорусское народное собрание. На этот раз оно собирается в год предполагаемых президентских выборов. Стоит напомнить, что как Конституция 1994 года, по которой в том же году был избран президент, так и нынешняя предусматривают пятилетний срок, на который избирается глава государства. Если в нынешнем году в Беларуси пройдут-таки прямые президентские выборы, то это мероприятие станет вторым за последние семь лет.

Нынешнему майскому собранию в поддержку Александра Лукашенко многие наблюдатели и политики склонны придавать особое значение. Порою высказываются мнения, что, мол, власть имущих может вновь пойти на конституционные изменения. Например, провозгласить выборы главы государства путем голосования в парламенте, а не всеми гражданами. Высказываются и предположения, что в Беларуси может быть объявлено какоголибо рода чрезвычайное положение, которое даст основание выборы временно отменить или перенести на более поздний срок.

Окончание на стр.3

# Чыгір перайшоў у наступ на БТ

Алесь ПАЎЛОВІЧ

**Працягвае развівацца скандал вакол затрымання сына экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра. За мінулы тыдзень да гэтай гісторыі дадаліся тры істотныя моманты.**

Па-першае, на волю быў адпушчаны Васіль Быкаў – адзін з сяброў Аляксандра Чыгіра, затрыманых разам з ім 10 лютага. Хлопца адпусцілі, так і не прад'явіўшы яму абвінавачвання. Ад сустрэчаў з журналістамі гандляр аўтазапчасткамі адмаўляецца. Дарэчы, абвінавачванне Аляксандру Чыгіру і ягонаму сябру Сяргею Каляздзе таксама яшчэ не прад'яўленае, аднак вядома, што ўзбуджаная крымінальная справа па 205 ч. 4 артыкуле Крымінальнага кодэкса (крадзеж маёмасці), у якой могуць фігураваць затрыманыя.

Другі важны момант – міліцыя заявіла, што ў адным з гаражоў, дзе Чыгір-малодшы і ягоны сябра Сяргей Каляда трымалі запчасткі на продаж, знайшлі рэшткі мікрааўтобуса «Форд-транзіт», які належаў праграме Беларускага тэлебачання «Зона Х». Гэты мікрааўтобус сапраўды быў скрадзены прыкладна месяц таму і вось раптам цудам знайшоўся ў чыгіроўскім гаражы! Экс-прэм'ер на гэта кажа, што цяпер у яго няма сумневу ў правакацыі. Мікрааўтобус з надпісам «Зона Х», нібыта скрадзены ягоным сынам, — гэта, паводле экс-прэм'ера, крок за мяжу здаровага сэнсу, нешта кшталту «фена, быццам бы скрадзенага ў сцюардэсы Лукашэнкам». Міхаіл Чыгір не выключае, што ягонаму сыну падкінуць і іншыя «доказы» ягонага злачынства. «У мяне ёсць звесткі, што гэты гараж за тыдзень да арышту сына ноччу наведвалі невядомыя ў масках», – заяўляе экс-прэм'ер.

І апошні паварот гэтай гісторыі зноў тычыцца Беларускага тэлебачання. Экс-прэм'ер падаў на БТ, журналістаў Дзмітрыя Косціна, Юрыя Пракопава і аўтара адной з праграмаў Яўгена Новікава ў суд. У іску сцвярджаецца, што на ўсю сям'ю Чыгіроў БТ і гэтыя аўтары навалі паклёп. У якасці кампенсацыі запатрабаваная сума ў 15 тысяч долараў. «Даравацъ ім брыдкую хлусню, што была вылітая на маю сям'ю, я проста не маю права», — заявіў Міхаіл Чыгір.

## НАВІНЫ

**15 лютага на паседжанні Саўміна А.Лукашэнка выказаў незадавальненне, што шмат хто з кіраўнікоў «вертыкалі» і прадпрыемстваў, стаўшых дэпутатамі «палаты», не хочуць працаваць у ёй на прафесійным грунце.** Зараз ад старой пасады адмовілася трохі больш за палову «палатачнага» складу. Апошні тэрмін напісаць адмысловую заяву – да сакавіка.

**Эпідэмія грыпу ў Беларусі абвешчаная ў 90% гарадоў.** На грып захварэлі сёлета ўжо 160 тысячаў чалавек. З ускладненымі грыпавымі формамі шпіталізавана 690 хворых. Медыкі кажуць, што палова загрыпаваўшых – гэта дзеці. З гарадоў няма эпідэміі грыпу толькі ў Баранавічах, Наваполацку, Маладзечне і Салігорску.

**З 21 лютага базавая стаўка рэфінансавання скароціцца з 80% да 75%.** Такое рашэнне прыняло праўленне Нацыянальнага банка Беларусі. Рашэнне тлумачыцца ў тым ліку прагнозным тэмпамі інфляцыі. У студзені яна склала 4,8%.

**Савет міністраў выдаў пастанову, паводле якой з 5 лютага ўпарадкаваныя кошты на тытунёвыя вырабы.** Яна закранула фірмы і прыватных прадпрымальнікаў, якія прадаюць цыгарэты. Пасля ўступлення пастановы ў сілу сталася так, што кошты на цыгарэты гродзенскай тытунёвай фабрыкі «Нёман» узраслі, а «Табак-Інвест» – знізіліся.

**Беларускі шакалад прызнаны лепшым на расійскім рынку.** На міжнародным кірмашы харчовых тавараў, які праходзіў напачатку лютага ў Маскве, лепшым шакаладам стаў наш «Ідэал». Яго вырабляе ААТ «Беларуская кававая кампанія».

**Амбасада Кітайскай народнай рэспублікі падарыла факультэту міжнародных зносінаў Белдзяржуніверсітэта спадарожнікавае абсталяванне.** Падарунак КНР такім чынам зрабіла і сама сабе. Справа ў тым, што толькі на першым курсе гэтага факультэта навучаецца 30 кітайскіх студэнтаў.

**Міністэрства абароны Беларусі выдала пастанову «Аб зацвярджэнні Палажэння аб дысцыплінарнай вайсковай часці».** Цяпер сюды (гэта ваенны гарадок Масюкоўшчына) суды будуць накіроўваць вайскоўцаў тэрміновай службы з пакараннем знаходжання ў штрафбаце да 2 гадоў. Разам з тым сюды не патрапяць учыніўшых цяжкія і асабліва цяжкія злачынствы з пакаральным тэрмінам звыш 5 гадоў.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА





## ПАДПІСКА НА НАШУ СВАБОДУ!

Каб не шукаць кожную раніцу нашу газету ў шапіках, падпішыся на яе цяпер! Падпіска на НАШУ СВАБОДУ магчымая праз пошту! У любым аддзяленні сувязі патрабуйце падпісны каталог з індэксам НАШАЙ СВАБОДЫ.

Кошт падпіскі на месяц – 1.040 рублёў. Наш падпісны індэкс – 63478.


## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1230

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014





## Лукапатрыёты

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Патрыётамі называюць людзей, якія любяць сваю радзіму, спрыяюць яе дабрабыту і бароняць яе. Патрыёты Беларусі, напрыклад, выступаюць за незалежнасць краіны, за дэмакратыю, за развіццё нацыянальнай культуры, за прыярытэт закона і раздзяленне ўлады, за добрыя і трывалыя адносіны з іншымі дэмакратычнымі дзяржавамі. Менавіта таму, што гэта будзе адпавядаць інтарэсам усіх беларускіх грамадзян.

А як мы назавём тых людзей, якія хочуць знішчыць незалежнасць Беларусі, навязаць ёй дыктатуру, беззаконне і чужую культуру ў якасці асноўнай і безальтэрнатыўнай? Якія бясконца шукаюць ворагаў сярод цывілізаваных дэмакратычных краін, ды брыдка іх лаюць. Гэта антыпатрыёты, пятая калона, чужынцы, навалач, брыдота, камунягі, лукамольцы, славянафашысты і г.д. Апошнім часам знайшлося слова, якое змяшчае ўсе гэтыя паняцці. Калі хочуць сказаць пра чалавека, што ён здраднік, вораг сваёй краіне і, адначасова, мае нізкія маральныя якасці, дык гавораць на яго «лукашыст». Вось жа пройдзе колькі часу і гэтае слова трывала ўвойдзе ў слоўнікі.

Між тым, ніхто з лукашыстаў ніколі не прызнае сябе антыпатрыётам. Яны таксама нешта любяць, але любяць нешта нерэальнае, кніжнае, фантазійнае. Такія людзі не прымаюць рэальнасці, жывуць мітамі і адлятаюць думкамі ў нейкую ідэальную на іх погляд краіну, якая адпавядае ўзроўню іх інтэлекту, цешыць іх непаўнавартасць. Адны бачаць перад сабой магутную сусветную імперыю часоў Рыма, другія – страшны гестапаўскі парадак Трэцяга Рэйха, трэція – манархічную крывадушную Расію семнаццатага стагоддзя, чацвёртыя – жудасныя абрысы Саўдэпіі часоў Сталіна. Сучасная рэальная Беларусь для іх вельмі маленькая і залішне спакойная. Вось каб далучыць яе да Расіі, а потым распачаць крывавы дзяржаўны тэрор ды знішчыць мільёны людзей – вось гэта б ажывіла іх. Вядома, не ўсе гэтыя людзі псіхічна хворыя, але ўсе яны, безумоўна, калекі.

І адмысловую кагорту, самую шкодную, сярод лукашыстаў займаюць лукапатрыёты – людзі ўвогуле без сумлення і прынцыпаў. Яны косяць свою капусту на чым заўгодна. Сёння – камунізм, заўтра – капіталізм. Толькі што, здаецца, пісаў дысертацыю па Леніну, а ўжо, глядзі сюды, грукае сябе ў грудзі: я - дэмакратрыначнік! Трэба – стане на заднія лапы, абліжа пяты, пацалуе ў ... і скажа, што смачна. Трэба – аблае свайго ўчарашняга гаспадара, прыдумае пра яго чаго не было. У лукапатрыёта адна радзіма – яго вантробы. Вантробам ён служыць, пра іх толькі і дбае. Лукапатрыёты – гэта смецце, якое мітусіцца ў паветры, сыплецца ў вочы, трапляе за каўнер. І якое шчасце, падумай, што ўсё гэтае смецце сабралася зараз вакол свайго шэфа! Вось жа выдатны выпадак вымесці іх вон усіх разам, ды расчысціць дарогу патрыётам, як думаеш? ■

## Небяспечны законапраект «Аб інфармацыйнай бяспецы»

**Алесь АБРАМОВІЧ**

Цэнтр прававой абароны СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў выступіў з крытыкай праекта закона «Аб інфармацыйнай бяспецы», які падрыхтаваны да ўнясення на разгляд палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Беларусі. На думку экспертаў цэнтра, гэты законапраект супярэчыць нормам міжнароднага права і стварае перадумовы для абмежавання канстытуцыйных правоў і свабодаў грамадзянаў. Прынятае гэтага законапраекта «можа прывесці да далейшага ўціску свабоды масавай інфармацыі ў Рэспубліцы Беларусь», гаворыцца ў заключэнні цэнтра.

Эксперты адзначаюць, што апошняя рэдакцыя законапраекта пазбаўленая найбольш адыёзных пунктаў і тэрмінаў, якія прысутнічалі ў праекце, што быў апубліканы ў зборніку «Концептуальные проблемы информационной безопасности в Союзе России и Беларуси: Материалы научной конференции». Тым не менш, нават у новай рэдакцыі законапраект супярэчыць міжнародным стандартам і стварае пагрозу абмежавання свабоды слова.

У прыватнасці, у артыкулах 9, 12 і 16 праекта пішацца аб абароне грамадзянаў «ад уздзеяння няпоўнай, недакладнай і скажонай інфармацыі», што, на думку экспертаў, можа стаць дадатковым інструментам умяшальніцтва дзяржавы ў дзейнасць СМІ. «У практыцы еўрапейскіх краінаў падобны падыход разглядаецца як антыканстытуцыйны, бо ён прыводзіць да цэнзуравання СМІ і значнага скарачэння інфармацыі, даступнай грамадству», — адзначаецца ў заключэнні.

Эксперты таксама выказваюць засцярогу, што стварэнне сістэмы інфармацыйнай бяспекі, прадугледжанае артыкуламі 16-18 праекта, прывядзе да неабгрунтаванага ўзмацнення дзяржаўнага кантролю за інфармацыяй. Да таго ж, яны лічаць, што большасць палажэнняў законапраекта сфармуляваная такім чынам, што іх можна адвольна інтэрпрэтаваць з улікам палітычных загадаў.

З аналагічнымі засцярогамі наконт новага законапраекта выступіла міжнародная арганізацыя «Артыкул 19», якая ставіць мэтай абарону свабоды слова ва ўсім свеце. ■

БелаПАН

## Апошні альбом выдатнага этнографа



Фота Ул. ШЛАПАКА

● Сын Міхася Раманюка прэзентуе бацькаву кнігу мастаку Аляксею Марачкіну

**Яніна КОБРЫНЬ**

Выдавецтва «Наша ніва» выпусціла ў свет унікальную манаграфію вядомага беларускага этнографа і мастацтвазнаўцы Міхася Раманюка «Беларускія народныя крыжы».

Гэта апошняя праца прафесара, якая рыхтавалася на працягу 25 гадоў даследаванняў і этнаграфічных экспедыцыяў. Аб'ехаўшы ўсю Беларусь, аўтар сабраў унікальны матэрыял аб беларускіх крыжах, надмагіллях і пахавальна-памінальных абрадах. Упершыню ў гісторыі беларускай этнаграфіі М.Раманюк апісаў усе функцыі крыжоў і месцы іх усталёўвання.

Манаграфія «Беларускія народныя крыжы» стала адзіным выданнем, якое дазваляе глыбока і ўсебакова пазнаёміцца з унікальнай часткай традыцыйнай культуры беларусаў.

Альбом пабачыў свет дзякуючы Беларускаму дабрачыннаму фонду ў Вялікабрытаніі. Значны ўдзел у справе з'яўлення выдання ўзялі сын аўтара — Дзяніс Раманюк, а таксама Сяргей Дубавец, Андрэй Верацяно, Сяргей Кавалёў. Прэзентацыя унікальнага выдання адбывалася ў мінскім касцёле святога Роха і сабрала як блізкіх сяброў і паплечнікаў зручасна пакінуўшага свет Міхася Раманюка, так і мноства аматараў беларускай культурнай спадчыны. ■

## «Круглы стол» у памяць Ежы Гедройца

**Кірэй МАНУЙЛА**

22 лютага ў Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Францішка Скарыны, што па вуліцы Рэвалюцыйная,15 у Мінску, пры ўдзеле Польскага інстытута ладзіцца міжнародны «круглы стол» памяці нядаўна пайшоўшага з жыцця вядомага культуролага Ежы Гедройца. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ён рэдагаваў у Парыжы часопіс «Культура», на старонках якога стала прадстаўлялася і беларуская культура (паводле пажадання Гедройца па яго смерці выданне выходзіць перастала).

Падчас «круглага стала» выступяць навукоўцы з шэрагу самых розных краінаў, але за пераважай беларусаў і палякаў. Прагучаць такія даклады, як «Завяшчанне Ежы Гедройца», «Мост» Ежы Гедройца: Беларусь - Польшча - Францыя», «Ежы Гедройц і беларуская перспектыва».

У Нацыянальным навукова-асветным цэнтры імя Скарыны вельмі ўсцешаныя, што «круглы стол» пройдзе пры святле. У Скарынаўскім цэнтры, супрацоўнікам якога на працягу паўмесяца давялося працаваць па вечарах пры свечках, нарэшце ўключылі электрычнасць (нагадаем, яна тут была адключаная за неаплачванне арэнды з прычыны недастатковага фінансавання гэтай структуры міністэрства адукацыі). ■

## Дабрачынны канцэрт для аўтара паланеза

**Кірыла ПАЗЬНЯК**

Відаць, многім менчукам давялося бачыць расклееную там-сям па горадзе афішу пра канцэрт пад назвай «Паланез Агінскага». Ён прайшоў 17 лютага ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі і быў арганізаваны пры ўдзеле міністэрства культуры, Гільдыі тэатральных рэжысёраў, а таксама Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі дзяржавамі.

Адметнасць гэтага канцэрта ў яго ном статусе дабрачыннага. Сродкі ад продажу квіткоў на яго пойдуць на стварэнне і ўзвядзенне ў Маладзечне помніка кампазітару Міхалу Клеафасу Агінскаму, аўтару славутага паланеза лямінор «Развітанне з Радзімай», аднаго з патэнцыйных мелодыяў гімна Беларусі. Вельмі верагодна, што адным гэтым дабрачынным канцэртам не абыдзецца, і яны будуць наладжаныя яшчэ, у тым ліку за мяжой. Таму помнік, макет якога ўжо гатовы, па ўсім выйдзе народным – у дзяржавы неабходных грошай на ягоную адліўку няма (гэта каля 5 тысячаў долараў).

Мяркуецца, што помнік паўстане ў Маладзечне сёлета ў верасні, не выключана, што 25 верасня – у дзень нараджэння Міхала Клеафаса Агінскага (1765 – 1833), вядомага не толькі як кампазітар, але і як грамадскі і палітычны дзеяч. У прыватнасці, ён быў паслом Вялікага княства Літоўскага ў Галандыі, прадстаўніком дыпламатычнай місіі ў Лондане, дэпутатам сойма, браў удзел у 1794 годзе ў паўстанні Касцюшкі. Памёр Агінскі на чужыне – у Фларэнцыі.

Помнік яму, калі патрэбная колькасць грошай усё ж такі будзе сабраная, будзе ўсталяваны каля будынка маладзечанскай музычнай вучэльні, якая якраз носіць імя М.К.Агінскага. Дарэчы, у многім дзякуючы завіханням дырэктара вучэльні Рыгора Сарокі ў горадзе і з'явіцца скульптурная выява кампазітара. Прывязка ва ўсталяванні гэтага помніка ў Маладзечне, як і тое, што музычная вучэльня тут мае гонар насіць імя Міхаіла Клеафаса Агінскага, абгрунтаваная. Паміж Маладзечнам і Смаргонню месціўся радавы маёнтак кампазітара, ды і само Маладзечна доўгі час знаходзілася ва ўладаннях Агінскіх. ■

## Спіць і ўва сне бачыць

**Сяргей СКАРГЕВІЧ**

Спікер Дзяржаўнай думы Расіі і Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі Генадзь Селязнёў на сустрэчы з журналістамі ў Мінску выказаў свае запаветныя думкі пра пашырэнне так званага Славянскага Саюза.

«Я перакананы, — сказаў ён, — што будзе створаны грамадска-палітычны рух па далучэнні Украіны да Саюза Беларусі і Расіі. Гэта была б, я лічу, цудоўная ініцыятыва ўкраінскіх дэпутатаў». Аднак Г.Селязнёў вырашыў абачліва дадаць, што ўсё ж прыйдзецца паглядзець, якое «будзе развіццё падобнай ініцыятывы». Старшыня Парламенцкага сходу падтрымлівае стварэнне ў Вярхоўнай Радзе Украіны міжфракцыйнай дэпутацкай групы па развіцці украінска-беларуска-расійскіх кантактаў - «ЗУБР» (апрача абрэвіятуры, якая адлюстроўвае першыя літары назваў трох краінаў, само слова, відаць, успрымаецца як антыпод віскулёўскім настроям). ■

## У дзяржбюджэт патрабуецца СКВ

**Кірэй МАНУЙЛА**

Днямі апублікаваны дэкрэт А.Лукашэнкі «Аб некаторых пытаннях збору плацяжоў у свабодна канвертаванай валюце і расійскіх рублях у 2001 годзе». Мэта дэкрэта – павелічэнне іх паступлення ў дзяржбюджэт.

З 23 лютага за праезд па дарогах Беларусі ў свабодна канвертаванай валюце і расійскіх рублях будзе брацца плата з уладальнікаў (ці карыстальнікаў) аўтатранспартных сродкаў, зарэгістраваных у замежных дзяржавах. Гэтак жа будзе спаганяцца патэнтнае мыта і падатак з даходаў замежных юрыдычных асобаў ад рэалізацыі тавараў, увезеных у Беларусь для дэманстрацыі на выставах-продажах. Апрача таго, у свабодна канвертаванай валюце і расійскіх рублях будзе збірацца мыта на ўвоз транспартных сродкаў, плата за ліцэнзію на засnаванне крамаў безмытавага гандлю і на міжнародныя перавозкі грузаў і пасажыраў, а таксама «паступленні ад рэалізацыі за свабодна канвертаваную валюту ці расійскія рублі перададзенай на карысць дзяржавы маёмасці, што карыстаецца попытам у насельніцтва, у тым ліку транспартных сродкаў, аргтэхнікі, складанабытавой тэхнікі, мэблі».

Дэкрэт уступае ў сілу праз 10 дзён па апублікаванні, гэта значыць, з 23 лютага. ■

## Канфіскуюць машыны

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

У Гродне пачалі вышукваць і штрафаваць таксістаў-«піратаў». У аднаго нават канфіскавалі машыну «Форд». Аднак найбольш канфіскуюць машыны на мяжы. У Астравецкім раёне ў студзені ў аднаго літоўца забралі і машыну, і вялікую колькасць цыгарэтаў, якія ён спрабаваў падпольна перавезці ў Літву. За мінулы год гродзенскімі мытнікамі было затрымана 129 аўтамабіляў. За апошні час у міліцыі з'явілася нямала машын замежных марак з ліку канфіскаваных – яны выкарыстоўваюцца ў аператыўных мэтах. ■

## Кветкі—Васілю Іванычу

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

Упершыню за шмат гадоў каля гарадзенскага бюста Чапая з'явіўся кошык з кветкамі. На стужцы было напісана: «Чапаеву ад беларускіх чувашоў». З'яўленне бюста героя анекдотаў 20 гадоў таму было па сутнасці недарэчнасцю. Мяўляў, вуліца носіць імя Чапая. Напачатку дэмакратычнай адлігі, аднак, яе пераназвалі імем паэта Міхася Васілька. Нават шыльду павесілі праз вуліцу ад бюста. Але пару гадоў таму яе разбілі злодзеі, хоць знаходзілася яна на будынку службы дзяржкантролю. Аднаўляць яе улады не сталі, толькі сцяну пафарбавалі. А вуліцу пакрысе зноў пачалі называць чапаеўскай. Яна, дарэчы, зусім някідкая. На ёй толькі венералагічны дыспансер, ды за плячыма Васіля Іваныча будынак суда. У ім калісьці судзілі украінцаў з карнага батальёна, які спаліў Хатынь. ■

## Фальшывыя білеты на Валерыю

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

10 лютага ў Гродне адбыўся канцэрт маскоўскай спявачкі Валерыі. Білеты былі прададзеныя задоўга да падзеі. Цікава, што ў дзень канцэрта міліцыяй было выяўлена каля паўсотні фальшывых білетаў. Затрыманы нават адзін з распаўсюджвальнікаў. Ахвярам падману, дарэчы, давялося змарнаваць ад васьмі да 14 тысяч рублёў (столькі каштавалі білеты), але паслухаць Валерыю ім так і не ўдалося. ■

## «Народную волю» предупредили

**Наталья РАДИНА**

Госкомпечати вынес «Народной воле» предупреждение, решив научить газету и журналиста Валерия Щукина «выбирать выражения».

«Народная воля» получила предупреждение Госкомпечати якобы за нарушение ст.32 «Закона о печати и других средствах информации» (граждане РБ имеют право на своевременное и оперативное получение через СМИ достоверной информации). По мнению Госкомпечати, нарушителем закона стала публикация Валерия Щукина «Претендуешь на президента – готовь сына в тюрьму» от 13 февраля 2001 года.

Согласно предупреждению №14 от 14 февраля, подписанному председателем Госкомпечати Михаилом Подгайным, в статье В.Щукина сообщается о том, что в число лиц, задержанных по подозрению в кражах запчастей для автомобилей, «кроме сына нежелаемого претендента на президентский престол, входит и племянник изгнанного из Беларуси писателя Василя Быкова» (кстати, как оказалось, задержанный вовсе не родственник писателя).

Эти сведения, по мнению чиновников, и оказались недостоверными. Чиновники Госкомпечати не поленились открыть Словарь русского языка Ожегова и найти там слово «изгнать». На основании прочитанного и было вынесено предупреждение: «Слово «изгнать» означает «удалить насильственно откуда-нибудь». А Василь Быков, как известно, некоторое время по приглашению ПЭН-клуба жил и работал в Финляндии, а теперь находится в Германии. Поэтому Василь Быков – не изгнанник, как утверждает «Народная воля».

Сам виновник предупреждения, Валерий Щукин, категорически не согласен с мнением Госкомпечати. «Изгонять можно не только насильственно, — заявил он. — Когда человека отдаляют от общества, то тоже изгоняют»

Как бы там ни было, это уже второе предупреждение газете «Народная воля», и можно пожелать ей только осторожней подбирать выражения в преддверии президентских выборов. ■

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# Ужывае ці не ўжывае?

## Падлетак выказвае прыступы злосці, у яго цячэ з носа кроў, ён часта праветрывае свой пакой. Прычынаў можа быць шмат. Напрыклад - наркотыкі

**У 2000 годзе злачынствы, звязаныя з наркотыкамі, учынілі ў рэспубліцы 75 школьнікаў і студэнтаў. Але тых, хто ўжывае наркатычныя сродкі і пакуль не патрапіў на лаву падсудных, – непараўнальна больш. Сярод наркаманаў, што ўводзяць наркотык шпрыцам, 25% маюць станоўчы аналіз на СПІД.**

**Сусветная арганізацыя здароўя, каб супрацьдзейнічаць гэтаму бедству, прыступіла да рэалізацыі спецыяльнай праграмы ў шэрагу краінаў, у тым ліку і ў Беларусі. Са студзеня ў нашай краіне рэалізуецца 5-гадовая праграма мер супрацьдзеяння злоўжыванню наркатычных сродкаў і псіхатропных рэчываў. Але галоўныя выратавальнікі сваіх дзяцей ад наркотыкаў – бацькі.**

**Менавіта бацькам адрасавана гэтая публікацыя, якую мы перадрукоўваем з польскай *Gazety Wyborczej*.**

Першае знаёмства з наркотыкамі падлетак будзе старанна скрываць. Калі бацькі маюць добры кантакт з сынам ці дачкой, гутараць з імі, дык працей прыкмеціць змену ў іхных паводзінах. Аднак паводзіны, пра якія мы пішам, не мусяць азначаць, што падлетак абавязкова ўжывае наркотыкі. Гэта можа быць праявай нейкіх клопатаў у школе альбо параненых пачуццяў. У любым выпадку падлетку патрабуецца дапамога бацькоў.



### Як выглядае

► **новы стыль убрання** – аб нечаканай змене знешняга выгляду падлетка трэба абавязкова з ім паразмаўляць. Спытайцеся, ці гэта такая новая мода і адкуль яна ўзялася, ці сябры па школе гэтак жа апранаюцца. Змена строю ў перыяд палавога даспявання – справа натуральная. Але можа быць, што падлетак звязаўся з нейкай групоўкай, якая мае кантакт з наркотыкамі і абазначае сябе знешне.

► **абыякавасць да свайго выгляду, невыкананне правілаў гігіены** – кожны з нас праз гэта, відаць, праходзіў, але варта высвятліць, бо падлетак, залежны ад наркотыкаў, перастае дбаць пра свой знешні выгляд.

► **рэзкае зніжэнне масы цела** – можа быць вынікам захворвання, з якім належыць ісці да доктара. Але можа быць паказчыкам таго, што падлетак ужывае наркотыкі.

► **насмарк, катар, крывацёк з носа** — могуць быць праявай хваробы, наступствам аслаблення арганізма з прычыны палавога даспявання. Але крывацёк з носа можа быць і наступствам ужывання наркотыкаў удыханнем праз нос. Так ці інакш такая бяда вымагае высвятлення ў доктара.

► **пагаршэнне памяці, яснасці мыслення** – калі падлетак забываецца так часта, што гэта звяртае на сябе ўвагу, трэба абавязкова высвятліць прычыну, бо можа быць вынікам дзеяння наркотыкаў.

► **пачырванелыя вочы, празмерна звужаныя ці расшыраныя зрэнкі, якія не рэагуюць на святло** – налітыя крывёй сасудзікі ў вачах могуць сведчыць, прыкладам, аб хваробе, працяглым недасыпанні, працяглым знаходжанні ў задымленым памяшканні. Але могуць сведчыць аб ужыванні алкаголю ці паленні марыхуаны. Звужаныя ці расшыраныя зрэнкі таксама могуць быць прыкметай ужывання наркотыкаў.

► **невыразная балбатлівая мова** – трэба папрасіць падлетка, каб гаварыў з вамі павольна, бо вы жадаеце яго зразумець. Калі падлетак не ў стане выканаць гэтую просьбу – дык магчыма, што гэта недобры нервовы стан, але можа быць, што гэтак уплывае алкаголь ці наркотыкі.

► **саладкаваты пах пры дыханні, а таксама ад валасоў** – можа быць вынікам занядбання гігіены, але можа быць і пахам марыхуаны (саладкаваты пах палёных зёлак).

► **сляды ўколаў на руках, сляды крыві на бялізне** – вельмі трывожны сігнал для бацькоў. Трэба неадкладна рэагаваць.




Тэст на зрэнкі

Гэты тэст спецыяльна распрацаваны ў Швецыі для паліцэйскіх, якія скардзіліся, што не могуць ацаніць памеры зрэнак у затрыманых. Норма сярэдняга зрэнка чалавека ляжыць у межах ад 3 да 6,5 міліметраў. Вужэйшыя ці шырэйшыя зрэнкі могуць (хоць і неабавязкова) сведчыць пра ўжыванне наркотыкаў. Зрэнкі, меншыя за 3 мм, могуць быць знакам ужывання гераіну. Зрэнкі, большыя за 6,5 мм, могуць сведчыць аб прыняцці іншых наркотыкаў. Пры ўжыванні наркотыкаў зрэнкі не рэагуюць на святло.

Бацькі могуць выразаць гэты малюнак і мець пры сабе. Варта ўдакладніць памеры, бо газетны друк не забяспечвае належнай дакладнасці.

### Як трымаецца

► **рэзкія змены настрою і актыўнасці, усплескі рэзкага ажыўлення змяняюцца ўпадкам і змораласцю, празмерны апетыт ці брак апетыту** – гэта звычайная праява палавога даспявання, як, дарэчы, і сып на целе. Але можа быць вынікам таемных эксперыментаў з наркотыкамі.

► **змяншэнне ці страта інтарэсу да любімых заняткаў** – прычынай можа быць, напрыклад, закаханасць, пра якую падлетак бацькам не скажа. Належыць гэта далікатна высвятліць.

► **пагаршэнне адносінаў да школы, дрэнныя адзнакі, канфлікты з настаўнікамі** – прычын можа быць мноства, але не выключана, што спрычыніліся і наркотыкі.

► **ізаляцыя ад родных у сям'і, замыканне ў пакоі, нежаданне весці размовы** – падлеткавы ўзрост патрабуе крыху інтымнасці і адзіноты. Аднак недапушчальна, каб дзіця замыкала пакой на ключ. Гэта ўжо не патрэба інтымнасці, але ахвота захаваць нешта ў таямніцы (таксама і бацькі не павінны замыкацца на ключ).

► **частае праветрыванне пакою, ужыванне свечак і асвяжальнікаў паветра** – падлетак можа праветрываць пакой, бо гэта карысна, ужывае свечкі і кадзілкі, бо такая зараз мода. Але магчыма падлетак паліў цыгарэты ці наркотыкі.

► **выказванні, якія ўтрымліваюць пазітыўнае стаўленне да наркотыкаў, у выпадку размоваў на гэтую тэматыку** – падлетак можа даводзіць вам пра «нешкадлівасць марыхуаны» ці пра падзел наркотыкаў на «мяккія» і «цвёрдыя». Гэта неабавязкова азначае, што ваш сын ці дачка іх ужываюць. Гэткія заявы могуць вынікаць з таго, што падлетак перажывае працэс канфрантацыі з бацькамі (паказвае, што мае ўласную думку і дасведчаны болей за «старых»). Найлепей спакойна патлумачыць падлетку, што праўда ёсць адна: наркотыкі – шкодная рэч, а іх ужыванне, нават і марыхуаны, пераследуецца законам і адпаведна можна займець клопат і непрыемнасці.

► **прыступы злосці, агрэсіі, канфлікты** – трэба абавязкова высняць іх падставы, бо могуць быць вынікам дзеяння наркотыкаў.

► **рэзкая змена кола сяброў і прыяцеляў на іншых, асабліва на старэйшых па ўзросце** – патрабуецца размова з падлеткам, адкуль такая рэзкая змена прыяцеляў, што ў новых знаёмых больш прываблівага, чым у ранейшых. Як лічыць падлетак – нашто гэтыя старэйшыя людзі ім зацікавіліся?

► **цікаўнасць да кніжак пра наркотыкі** – кожны падлетак перажывае такі перыяд. Дзеці цікавяцца наркотыкамі, бо гэтая тэма гучыць у іхных размовах з сябрамі і знаёмымі. Варта паразмаўляць з падлеткам аб такіх ведах. Трэба зрэагаваць, калі падлетак у інтэрнэце заходзіць на старонку, прысвечаную наркотыкам.

► **невытлумачаныя спазненні, позняя вяртанні дамоў, ноч, праведзеная па-за домам** – кожная начоўка па-за домам мусіць быць узгодненая з бацькамі. Родныя павінны ведаць, у каго падлетак начуе, тэлефон гэтай кватэры, быць у кантакце з іншымі бацькамі. Прычыны позніх вяртанняў трэба абавязкова высняць.

► **хлусня, вынас каштоўных рэчаў з хаты** – на крадзеж трэба рэагаваць адразу. Бо магчымая прычына – патрэба ў грошах на наркотыкі.

► **падлетак аб'яўляе пра крадзеж у яго дробных сумаў равеснікамі** – крадзяжы ёсць усюды, але трэба зацікавіцца, распытаць падлетка, дзе ў яго ўкралі грошы. Калі гэта здарылася ў школе – трэба паразмаўляць з настаўнікамі і дырэктарам. Трэба зрабіць гэта ў прысутнасці падлетка. Магчыма, крадзяжу не было, а спасылка на яго прыкрывае выдаткі грошай на наркотыкі.

► **таямнічыя кароткія размовы па тэлефоне, хуткі выхад пасля гэтага з хаты** – можа гэта быць прыкметамі кахання, якое трэба паважаць. Прапануйце, каб падлетак запрасіў сваю сімпатыю дадому. Калі ж гэтыя тэлефонныя размовы з рознымі асобамі – а пасля іх наступае выхад з дому – распытайце сваё дзіця. Магчыма гэта размовы з гандлярамі, альбо падлетак сам можа гандляваць.

### Што ты можаш?

Усе аксэсуары і рэчы, пра якія могуць мець дачыненне да наркотыкаў, вымагаюць абавязковага высвятлення з боку бацькоў – найлепей у кансультацыі. Асаблівай увагі патрабуюць **таблеткі**. Кожная таблетка, знойдзеная ў сына ці дачкі, павінна быць засцярожэннем бацькам. Падлетак не мусіць сам сабе прызначаць лекі, нават супраць болю. Можа паказацца, што гэта перабольшванне – але калі заведзены парадак, што падлетку не вольна мець ніякіх лекаў, дык бацькі, знаходзячы таблетку, маюць правы непакоіцца і распытваць, адкуль яна ўзялася і што гэта за таблетка. Самыя насцярожваючыя рэчы – **папіросы, маленькія пакецікі з парашком, кавалкі апаленай фальгі, таблеткі, папяровыя значкі, забруджаныя банкі, шпрыцы і іглы**. Усе гэтыя рэчы могуць служыць пры ўжыванні падлеткам наркотыкаў.

Часам таксама наркотыкі і злучаныя з імі аксэсуары – для падману дарослых – ляжаць на відавоку. Марыхуану некаторыя падлеткі гадуюць у вазоне, а несвядомая маці з замілаваннем дапамагае вырошчваць атруту, падліваючы вады.

### Шлях залежнасці

Залежнасць не ўзнікае раптам, як гром з ясная неба. Бацькі, якія цікавяцца сваімі дзецьмі, могуць заўважыць папераджальныя сігналы намнога раней, чым у дзіцяці складзецца залежнасць ад наркотыкаў.

► **Першыя спробы наркотыкаў** — выпадковыя і нечастыя. Бацькі могуць падумаць на праявы наркаатручанасці, што з іх сынам ці дачкой «нешта не так», «хіба хворае», «ніколі так не трымалася».

► **Імкненне да «прыемнасці» ці ўнікание ад «непрыемнасці»** — частыя і трывожныя знакі можна прыкмеціць, калі падлетак прымае наркотыкі для «задавальнення». Менш прыкметна, калі падлетак прымае іх, каб унікнуць непрыемнасцяў (напрыклад, зменшыць стрэс, звязаны са школай). У гэтай фазе залежнасці можна заўважыць такія сігналы, як страта цікаўнасці, ініцыятывы, школьныя праблемы, хатнія канфлікты, выхад з дому без папярэджання бацькоў, парушэнне рытму дня і ночы, пачырванелыя вочы, ненатуральна расшыраныя ці звужаныя зрэнкі, якія не рэагуюць на святло.

► **Залежнасць** — у перыяд афармлення залежнасці падлетка ўжо моцна відаць узрастаючы канфлікт з бацькамі, спад настрою, які выклікае з ужывання наркотыкаў, вынас рэчаў з хаты, бойкі, крадзеж, вандалізм. Падлетак жадае здабыць грошы на наркотыкі, можа пачаць удзел у гандлі імі.

**Катарына Монтгомэры**
**Томаш Герасімовіч**
**Gazeta wyborcza**

*Працяг тэмы ў наступным нумары*

# Без права на необходимое

**Янина КОБРЫНЬ**

В Гомельскую исправительно-трудовую колонию для женщин (УЖ 15/4) 15 февраля был доставлен гуманитарный груз Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Беларуси.

Каждая осужденная получила индивидуальный санитарно-гигиенический пакет, состоящий из туалетного и хозяйственного мыла, зубной щетки и пасты, шампуня и туалетной бумаги. 16 февраля аналогичный груз был передан Речицкой женской колонии (УЖ 15/24).

Эта гуманитарная поддержка была оказана КНГ ОБСЕ в рамках собственного проекта, направленного на предоставление помощи лицам, которые отбывают наказание в местах лишения свободы. Гуманитарные конвои для них – единственная возможность иметь элементарные средства гигиены.

В списке выдаваемых осужденным женщинам предметов, утвержденным Советом министров, нет самого необходимого – женских гигиенических прокладок. Вносить изменения в этот перечень проблематично: нужны дополнительные средства. Причём немалые – в Беларуси около 27.000 осужденных женщин.

Оправдываясь перед КНГ ОБСЕ, начальник медицинской службы Комитета исправления наказаний МВД Василий Завадский заявил, что «не исключено, что в стране все же будет узаконена выдача осужденным женщинам гигиенических прокладок». По его словам, КИН МВД периодически поднимает вопрос об обеспечении женщин средствами личной гигиены, но дело в том, что ответ упирается в привычную для наших дней безработицу на «зоне». Спецучреждения не в состоянии обеспечить женщин работой. Не имея доходов, женщины соответственно не имеют средств на надлежащий уход за собой. ■

# Крыўдзяць нават сірот

**Вераніка ПТУШКІНА**

Улады не дазваляюць Саюзу евангельскіх хрысціянаў-баптыстаў правесці дабрачынную акцыю для дзяцей-сіротаў.

З 14 па 20 траўня пратэстанцкія цэрквы краіны вырашылі правесці ў Мінску дзіцячую акцыю пад назвай «Самы вялікі падарунак». У гэтым свяце павінны браць удзел каля 60 тысячаў хлопчыкаў і дзяўчынак з дзіцячых дамоў, школ-інтэрнатаў і малазабяспечаных сем'яў, а таксама дзяці-інваліды з Мінска і Мінскай вобласці.

Арганізатары акцыі плануюць арганізаваць для дзяцей тэатралізаванае шоу, прысвечанае праблемам чалавечых узаемаадносінаў. Разам з запрашэннем на спектакль, у якім мяркуецца ўдзел вядучых артыстаў сталічных тэатраў, дзецям будуць уручаны падарункі ад іх аднагодкаў з розных краінаў.

Падобныя акцыі рэгулярна арганізоўцца за мяжой, у іх бяруць удзел ад 70 да 100 тысячаў дзяцей. Але там, у адрозненне ад Беларусі, дзіцячыя святы арганізоўваюць пры падтрымцы дзяржаўных структураў, якія ўсведамляюць выключнае духоўнае значэнне падобнай падзеі.

Арганізатарам акцыі «Самы вялікі падарунак» дагэтуль не атрымалі афіцыйнага дазволу на правядзенне свята, таму не могуць пачаць падрыхтоўку акцыі. Паводле словаў прадстаўніка Саюза евангельскіх хрысціянаў-баптыстаў Германа Родава, «арганізатарам, якія будуць несці адказнасць за жыццё і здароўе кожнага дзіцяці, трэба будзе ажыццявіць велізарны аб'ём работ па вырашэнні шматлікіх праблемаў, і такая марудлівасць з боку дзяржаўных установаў незразумелая». ■

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



СПОРТ

## У беларусаў перспектыў не прагледаецца

Аляксей СТАЎСКІ

Беспаспяхова, як і меркавалася, выступаюць беларускія лыжнікі і лыжніцы на чэмпіянаце свету па гэтым відзе спорту ў фінскім горадзе Лахці. За ўвесь час у беларусаў не было нават мізэрных шанцаў узяць які-небудзь медаль.

У першы дзень дзякуючы пратаколам спаборніцтваў у інтэрнэце мы змаглі вызначыць, што больш-менш прыстойнае месца ў гонцы на 15 кіламетраў класічным стылем заняў наш срэбраны прызёр няўдаўняй Універсіяды Мікалай Семяняка. Ён стаў дваццаць сёмым з адставаннем ад лідэра ў тры хвіліны і чатыры секунды. Перамог жа швед Пер Олафсан. У жанчын у гонцы на тых жа 15 кіламетраў ніводная з беларусак у першую дваццатку не трапіла.

Перамог Олафсан і на другі дзень падчас гонак пераследу. Тут у беларусаў лепшы вынік паказаў Сяргей Далідовіч. У яго дваццаць дзевятае месца. У жанчын Ірына Скрыпнік у гонцы пераследу так нічога і не здолела зрабіць, каб звярнуць на сябе ўвагу.

Тым не менш чэмпіянат будзе працягвацца яшчэ цэлы тыдзень, і сёння мы даем другую частку календара чэмпіянату.

**20 лютага.** Жаночая гонка на 10 кіламетраў класічным стылем.

**21 лютага.** Жаночы і мужчынскі спрынт на 5 і 10 кіламетраў адпаведна.

**22 лютага.** Мужчынская эстафета 4х10 кіламетраў.

**23 лютага.** Жаночая эстафета 4х5 кіламетраў.

**25 лютага.** Апошні дзень чэмпіянату. Дзве марафонскія гонкі: на 30 кіламетраў у жанчын і 50 — у мужчын. ■

## МЕЦэнаты з Францыі

Аляксей ЗУБРОЎСКІ

Значную дозу галявога ўлівання атрымалі гандбалісткі чэмпіёна Беларусі клуба Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі ад французскага клуба «Мец» у рамках розыгрышу Кубка ЕГФ. Толькі адзін тайм здолелі пратрымацца беларускі супраць націску «мецэнатак». 10:13 – такі быў лік пасля першага перыяду, і 20:31 — пасля ўсёй гульні. Зразумела, нягледзячы на тое, што ўчора ўвечары адбылася гульня ў адказ, такую перавагу адыграць БДПА проста не ў стане, і таму турнірны шлях клуба можна лічыць скончаным. Зрэшты, нашы гандбалісткі і так дабраліся да 1/8 фіналу, што безумоўна можна назваць нават поспехам. Яго толькі патрэбна развіваць у будучым, каб цяперашнія набыткі не сталіся недасягальнымі ў будучым. ■

## Мірны адолеў Нормана!

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Сенсацыйнай перамогай мінчаніна Макса Мірнага завяршылася сустрэча ў рамках 1/8 фіналу тэніснага турніру ў Марселі з прызавым фондам у паўмільёна долараў ЗША.

Ён перамог першую ракетку турніру Магнуса Нормана з Швецыі з лікам 6:2, 3:6, 6:3. У чвэрцьфінале беларус сустрэўся з французам Жульенам Бутэрам і таксама быў лепшым, прычым без асаблівых цяжкасцяў — 6:2, 6:3. І толькі ў паўфінале турнірны шлях беларуса скончыўся паразай. Яшчэ адзін, больш масціты француз, Себасцьян Гражан ва ўпартым паядынку правяў больш волі. Лік па сэтах 4:6, 6:7. А Гражан выйшаў у фінал, дзе ўчора ўвечары гуляў з расіянінам Яўгенам Кафельнікавым. А Мірнаму ягонае паспяховае выступленне значна дадасць і ачкоў у рэйтынгавую скарбонку (верагодна, што Макс наблізіцца ў рэйтынгу да першай на цяперашні момант ракеткі Беларусі Уладзіміра Валчкова і зноў узновіць змаганне за гэты тытул) і грошай на рахунак у банку.

Тым часам на турніры ў сталіцы Катара Дохе расіянка Ліна Краснаруцкая, на жаль, у напружаным паядынку перамагла беларуску Таццяну Пучак з лікам 2:6, 7:5, 7:6. Скажам шчыра, нашай тэнісістцы проста не хапіла крыху ўпартасці ў паядынку.

На гэтым тыдні распачаліся яшчэ некалькі турніраў, у якіх прымаюць удзел беларускія тэнісісты, аб іх у наступным нумары. ■

ВІТРАЖ

## Новы рэкорд для Кнігі рэкордаў

Саракагадовы кітаец Ван Чжунпін здолеў прасядзець у адных трусах на ледзяной глыбе на працягу чатырох з паловай гадзінаў, каб патрапіць у Кнігу рэкордаў Гінеса. Адбывалася гэта ў прысутнасці сотняў гледачоў. Афіцыйныя прадстаўнікі прэстыжнага міжнароднага выдання параўноўваюць дасягненне кітайца з дадзенымі іншых людзей, якія спрабавалі ўсталяваць аналагічны рэкорд.

Але кітайская прэса падкрэслівае, што гэты жыхар Пекіна атрымаў перамогу над 47 сваімі сапернікамі. Рэкардсмен правёў на ледзяной глыбе працяглы час, нягледзячы на незвычайныя халады ў сталіцы Кітая, і пры гэтым на ягоным твары не здрыгануўся ніводзін мускул.

## Таямніцы цывілізацыі індзейцаў

Тры старажытныя захаванні, запоўненыя скарбамі далёкай у часе індзейскай цывілізацыі Мачэ, знайшлі на тэрыторыі Перу амерыканскія археолагі. Росквіт гэтай цывілізацыі прыпадае на перыяд з I па VIII стагоддзі да новай эры. Гэтая знаходка лічыцца найбольш важнай з усіх, што мелі месца на перуанскай тэрыторыі за апошнія гады. Скарбы былі выяўленыя ў пірамідзе вышынёй 32 метры недалёка ад мястэчка Дос-Кабесас на ўзбярэжжы краіны. Па словах кіраўніка экспедыцыі з Каліфарнійскага ўніверсітэта Крыстофера Данана, знойдзеныя керамічныя, металічныя і тэкстыльныя рэчы ўяўляюць сабой выключную гістарычную каштоўнасць і захавалі выдатную якасць. У выяўленых магілах знаці цывілізацыі Мачэ было шмат золата і срэбра. Спецыяльнае даследаванне пра унікальныя знаходкі будзе апублікаванае ў сярэдзіне вясны, і з ім будзе магчыма пазнаёміцца праз інтэрнэт. ■



# Поразить, но... не до смерти

## Вооруженные силы все шире используют новые способы вывода противника из строя

Владимир СЕРГЕЕВ

В зарубежной печати активно обсуждаются различные аспекты применения нового типа оружия, известного под названием «несмертельного».



### Иммобилизация живой силы

Потенциальным применением несмертельного оружия являются ситуации, когда требуется «иммобилизация», т.е. приостановка физической активности живой силы противника (рассеивание людской толпы, нейтрализация укрывшихся за баррикадой вооруженных людей, предотвращение бегства отдельных индивидуумов); иммобилизация движущихся объектов (остановка или препятствование следованию автомашин при минимальном риске для находящихся в них пассажиров); создание помех компьютеризованным линиям связи (посредством внедрения в информационные каналы компьютерных вирусов); нарушение инфраструктуры общего назначения (например, вывод из строя энергетических сетей).

Разработчики считают, что приоритетное значение следует присвоить разработке несмертельного оружия, воздействующего именно на личный состав противника. По их мнению, сам термин «несмертельное» не следует понимать буквально, поскольку, вообще говоря, возможны ситуации, когда нельзя исключить и летального исхода. Наибольшее распространение в качестве основы для создания образцов несмертельного оружия получили оружейный комплекс M203 автоматической винтовки M16 с патроном калибра 5,56 мм и 44-мм гранатомет.

### Тупоносые резиновые пули

Другой категорией систем, проходящих полевые испытания, являются разработанные по программе несмертельного оружия AMC 40-мм боеприпасы, начиненные множеством тупоносых пуль ударного действия. Они уже прошли коммерческое лицензирование и предназначены для нейтрализации агрессивно настроенной толпы, а также в ряде операций военной полиции и других органов правопорядка.

Боеприпасы с резиновыми шариками или дробинками демонстрировались на одной из выставок современных вооружений фирмой *Alliant Techsystems*. В соответствии с контрактом, заключенным ею с *ARDEC*, фирма в тесном сотрудничестве с израильским ВПК изготовила два варианта боеприпасов, содержащих несмертельное оружие с резиновыми поражающими элементами для ведения огня из серийного стрелкового оружия. В основном они предназначены для типовых полицейских акций (разгон демонстрантов и т.п.). Несмертельные пули выбрасываются из дула под действием баллистического заряда, сходного с холостым патроном.

### Начиненные сеткой

Ряд боеприпасов, создаваемых по программе НИОКР несмертельного оружия, заинтересовал сугубо гражданские ведомства. В частности, Национальный институт юстиции (США) решил выступить в качестве спонсора проекта *SBIR* (по исследованию нововведений малого бизнеса) с целью разработки 40-мм «Боеприпаса баллистической сетки». На последнем симпозиуме сухопутных войск США представитель *ARDEC* продемонстрировал, как действует датчик, вмонтированный в носовую часть прототипа гранаты. Новый образец несмертельного оружия позволяет эффективно управлять развертыванием своего рода «заградительного загона» при блокировании отдельных групп противника. «Загон» позволяет приостановить всякое перемещение военнослужащих или позволить им движение строго в рамках заданного коридора. Как сообщается в зарубежной печати, в некоторых полевых испытаниях использовалась сеть со специальным покрытием, работающим по принципу адгезии (с усиленным эффектом прилипания), что значительно повышало заградительный эффект.



«Начиненная сеткой» 40-мм граната является также новой системой для борьбы с террористами и злоумышленниками, пытающимися проникнуть на особо важные военные объекты. Один из подобных образцов прошел испытания на полигоне службы безопасности, отвечающей за охрану ядерных боеприпасов, находящихся на борту американских стратегических ракет и самолетов-носителей.

### Лазерный ослепитель

Для ВВС США разработан несмертельный (с расфокусированным лучом) лазерный «ослепитель», который приспособлен для 40-мм гранатомета. Экспериментальные образцы «Ослепителя» использовались ВМС США в 1995 г. в ходе миротворческих операций ООН в Сомали.

Система «*Sabor*» состоит из двух компонентов: твердой пластиковой капсулы, имеющей те же размеры и форму, что и 40-мм граната, и из панели управления, которая посылает импульсы в нижний блок гранатомета.

Пластиковая капсула несет в себе лазерный диод и закладывается в немодифицированный гранатомет M203 точно так же, как обычная граната. Простым нажатием кнопки на панели управления стрелок переводит лазер в режим непрерывного излучения, что позволяет ослепить противника.

Как свидетельствует технический консультант лаборатории Филлипса, который в составе американской морской пехоты участвовал в миротворческих операциях в Африке, в том числе по отводу сил ООН с территории Сомали в начале 1995 г., ВМС США успешно применили тогда систему «*Sabor 203*». По его словам, одного морского пехотинца окружила враждебно настроенная толпа местных жителей (это случилось после того, как, прорвав жиденький ооновский заслон, масса вооруженных сомалийцев вплотную приблизилась к месту размещения подразделений американских войск). Стремясь избежать смертоубийства, пехотинец с «*Sabor 203*» быстро перебросил переключатель на пульте в положение «Излучение». Секундами позже из ствола «*Sabor*» забил ослепительно яркий красный луч. Он «прошел» по толпе на уровне человеческой груди, вызвав панику в ее рядах. Вскоре толпа была рассеяна...

### Световая игла

В начале 90-х гг. в Соединенных Штатах было создано лазерное ружье с ранцевым батарейным питанием, имеющее габариты табельного стрелкового оружия. В разработке находится лазерное ружье, по своим размерам не превосходящее стандартную армейскую винтовку M16 и имеющее дальность действия до 1 км. В самом ближайшем будущем ожидают появление малогабаритных лазерных пистолетов, воздействующих на сетчатку зрительного анализатора. Слегка расфокусированный лазерный луч пистолета способен на некоторое время ослепить террориста или иного злоумышленника.

Помимо указанных средств в США и других странах *NATO* создаются авиационные, корабельные и наземные лазерные установки большой мощности, предназначенные для вывода из строя оптико-электронной аппаратуры (прицелов ночного видения, систем наведения крылатых и баллистических ракет, фотоприборов спутников-шпионов).

### Довести до эпилепсии

Лазер, официально именуемый оптическим квантовым генератором, излучает в пространство световые волны, отличающиеся высочайшей когерентностью, т.е. строгим постоянством фазы колебаний. Это позволяет получить высокую концентрацию света, создать своего рода «световую иглу», которая то и может выжечь сетчатку глаза. Все другие источники света — лампа накаливания, люминесцентная и даже прожектор — относятся к некогерентным. Они не столь опасны и этим привлекли внимание разработчиков несмертельного оружия.

Руководитель программы разработки «оружия с минимальным побочным эффектом» (другое название «несмертельного оружия») Курт Джонсон из Центра по НИОКР министерства армии поведал о проводимых исследованиях по получению мощных источников некогерентного излучения. Проходят испытания приборы-излучатели мощных направленных и диффузных импульсных потоков оптического диапазона. Их удалось создать на базе принципиально новой технологии взрывного нагрева инертных газов. По словам Джонсона, подобные средства, вмонтированные в корпус стандартного 155 мм армейского снаряда или подвешенные к дрейфующему в сторону вражеских позиций газовому баллону, смогут практически мгновенно вывести из строя все оптико-электронные датчики компьютерных систем управления, а также личный состав противника. ■

*Печатается в сокращении*

Ng.ru

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец — рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ № 168 Нумар падпісаны ў друк 18/02/2001 (15.00) Наклад — 9.360

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014